ПРЫ ПАДТРЫМЦЫ ПАГА «РУХ «ЗА СВАБОДУ»

EUROКЛУБ

ДАДАТАК ДА ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНАГА БЮЛЕТЭНЯ «ДЗЕДЗІЧ»

№05 (08) • САКАВІК 2012

# КАРОЛЬ ЛІР

## ЗАГАВАРЫЎ ПА-БЕЛАРУСКУ



**Свабодны тэатр паставіў па-беларуску «Караля Ліра» ў славутым «Глобусе». Лонданская публіка выклікала беларускую трупу «на паклон» сем разоў.«Гістарычна так склалася, што большая частка насельніцтва не выкарыстоўвае або выкарыстоўвае рэдка родную мову»,**

Беларускі свабодны тэатр 18 траўня завяршыў двухдзённы выступ на фестывалі «Globe to Globe» ў Лондане.

На сцэне таго самага Шэкспіраўскага «Глобуса» забаронены ў Беларусі тэатр паказаў сваю версію «Караля Ліра».

### ШЭКСПІРАЎСКІ ДУХ

Сучасны «Шэкспіраўскі тэатр «Глобус» («Shakespeare's Globe Theatre») вядзе гісторыю ад 1997 года. Арэна на паўднёвым беразе Тэмзы – амаль дакладная копія гістарычнага «Глобуса» (The Globe Theatre), дзе на мяжы 16-17 стагоддзяў дзеіў Уільям Шэкспір. Не дзіва, што канструкцыя тэатра ўражвае аўтэнтычнасцю. Амфітэатр у тры ярусы шчыльна атачае прастакутнік сцэны. Замест звыклага партэра тут панадворак без крэслаў і даха над галавой. Калі стаіш у натоўпе наўпрост перад сцэнай адчуваеш сябе ў ролі «граўндлінга» – сярэднявечнага бедняка, які плаціў за ўваход у «Глобус» 1 пені ды шчоўкаў падчас імпрэзы лясныя арэхі. Цяпер замест арэхаў ва ўжытку піва, а квіткі ў «стаячы» панадворак каштуюць 5 фунтаў.

### «ПАРВАЛІ» ЛОНДАН

Сказаць, што беларусы выступілі з поспехам — не сказаць нічога. Удзельнікаў пастаноўкі выклікалі «на паклон» сем разоў, а дырэктар «Глобуса» Дамінік Драмгул назваў беларускую версію «*найдакладнейшым чытаннем класічнай п'есы, якое ён бачыў у жыцці*».

Паводле словаў Мікалая Халезіна, што адаптаваў і прадзюсаваў тэкст п'есы, гэта яго першы і апошні досвед па перапрацоўцы Шэкспіра.

«Лягчэй пісаць свой тэкст, чым спрабаваць скараціць тэкст Шэкспіра. Гэта быў выклік для тэатра, з якім мы паспяхова справіліся, але гэта толькі адзін з выклікаў, перад намі іх шмат, і таму мы пакідаем за сабой права займацца іншым, актуальным тэатрам», сказаў Мікалай Халезін.

Сучаснае прачытанне «Караля Ліра» выглядала непрыхаваным намёкам на беларускую рэчаіснасць. Лір-тыран (Алег Сідорчык) з жалезнай пальчаткай (світа вітала яго «Бацька! Бацька!»), Кент-бязногі афганец (Дзяніс Тарасенка), Эдмунд-спецназавец (Аляксей Нарановіч), калгаснікі, сілавікі ў масках, допыты, смяротнае пакаранне...

РЭЖЫСЁР ПАЦВЕРДЗІЎ, ШТО Ў П'ЕСЕ ЯНЫ РАСПАВЯДАЛІ «НЕ ПРА БРЫТАНСКІХ КАРАЛЁЎ І ГЕРЦАГАЎ, А ПРА СЯБЕ, ПРА СВАІХ КАРАНАВАНЫХ І САМАКАРАНАВАНЫХ КАРАЛЁЎ».

*«Забудзьцеся на нашых мясцовых Ліраў з аголенымі тэатральнымі рыцарамі і акторамі ва ўтаймавальных кашулях,* - піша адзін з вядучых рэсурсаў мастацкай крытыкі ў Вялікабрытаніі The Arts Desk. - *Усё было настолькі жорстка і прыгожа, наколькі гэта магчыма было ўявіць. Беларускі свабодны тэатр страсянуў «Глобус»»*.

### СЯРОД ТЭАТРАЛЬНАЙ ЭЛІТЫ

Спецыяльна ў Лондан прыляцелі кіраўнікі буйных італьянскіх тэатральных фестываляў, арт-дырэктар вядучага амерыканскага тэатра «Паблік Сіэтр» Оскар Юсціс, дырэктар знакамітага фестывалю «Андрэр зэ Радар» Марк Расэл. Як распавёў Мікалай Халезін, з імі прайшлі перамовы па пракаце гэтай і іншых пастановак Беларускага свабоднага тэатра.

На беларускую прэм'еру прыйшлі вядучыя брытанскія драматургі Том Стопард, Кэрыл Чэрчыл, Марк Равенхіл.

Як сказала дырэктар Беларускага свабоднага тэатра Наталля Каляда, «гэта гістарычная падзея для беларускага мастацтва і краіны ў цэлым. Кароль Лір на шэкспіраўскай сцэне загаварыў па-беларуску».

Нагадаем, шасцітыднёвы фестываль шэкспіраўскіх п'ес «Глобус на глобус», у якім прымаюць удзел 37 групаў з розных краін, з'яўляецца часткай Культурнай алімпіяды, прымеркаванай да Алімпійскіх гульняў у Лондане ўлетку 2012 года. П'есы класіка англійскай літаратуры на фестывалі выконваюцца на 37 розных мовах: ад кітайскай, урду і армянскай да англійскай мовы жэстаў.

**Паводле: charter97.org**

У НУМАРЫ:

# САМЫЯ ПРЫГОЖЫЯ ПАРКІ ЕЎРОПЫ

**Пазнаць шмат цікавага пра краіну і пазнаёміцца са звычкамі і характарам мясцовых жыхароў можна, пабываўшы ў еўрапейскім парку.**

У кожным еўрапейскім горадзе іх мноства, вялікіх і малых, сучасных і з багатай гісторыяй.

**STADTPARK У ВЕНЕ**

Гэта парк, у якім робіцца найбольшая колькасць фотаздмкаў у аўстрыйскай сталіцы. Ён размешчаны ў цэнтры горада, недалёка ад заапарка і каралеўскага палаца. Тут можна пабыць у цішыні, пакатацца на лодках па Дунаі, нават сустрэць казулю, якая, магчыма, і не спалохаецца выбліску фотаапарата.

Парк гэты па-еўрапейску лагічна ўладкованы. Гэта значыць, што, калі вам надакучыць хадзіць, вы можаце прысесці на лаўку, і знайсці ўрну менавіта ў тым месцы, дзе трэба выкінуць фанцік ад шакаладкі. Яшчэ тут можна зладзіць невялікі пікнік, уладкаваўшыся за драўлянымі сталамі, якія знайшлі сваё месца пад густымі елкамі. Але знакаміты парк не гэтым, а залатой статуяй Іягана Штрауса. Паглядзець на кампазітара сцякаюцца турысты з усяго свету.

**JARDIN DU LUXEMBURG У ПАРЫЖЫ**

Альбо Люксембургскі сад. Вытанчаны, як і само герцагства Люксембург. У садзе можна выявіць глебы, прывезеныя з розных краін, расліны, сабраныя з усіх куткоў святла, больш сотні скульптурных кампазіцый і фантанаў. Самым прыгожым лічыцца фантан, выкананы ў стылі барока – фантан Медычы ад 1630 года. Акрамя таго, у парку ёсць пляцоўка для дзяцей, лялечныя імпрэзы і возера, дзе можна пакатацца на арандаванай лодцы.

**HORTUS BOTANICUS PLANTAGE У АМСТЭРДАМЕ**

Ў нейкім сэнсе гэта і не парк зусім, а батанічны сад, што ніколькі не прымяншае яго паркавых добрых якасцяў. Змешчаны ў цэнтры горада на скрыжаванні рачных каналаў, ён запрашае да павольнага сузірання флоры. Вядома ж, цюльпаны там складаюць пераважную большасць кветак. Але, каб паглядзець на іх, парк лепш наведваць у красавіку, тады цюльпаны яшчэ квітнеюць.

Акрамя гэтага ў садзе можна назіраць трапічныя расліны, высаджаныя ў велізарнай цяпліцы. У сярэдзіне тэмпература дасягае 50 градусаў, пры такой спякоце аб'ектыў фотаапарата пакрываецца кропелькамі вады. У цяпліцы можна выявіць матылькоў, якім такія ўмовы ў самы раз.

А калі вы не адчуваеце ў сабе даследчай жылкі, то можна проста пасядзець на лаўцы і палюбавацца на качак, якія плаваюць у фантане.



Залаты Штраўс музыцыруе ў венскім парку

**PHOENIX PARK У ДУБЛІНЕ**

Самі дублінцы кажуць, што гэта другі па велічыні ў Еўропе парк, як і шматлікія іншыя ірландскія выбітнасці - заўсёды на ганаровым другім месцы. Ён знаходзіцца ў паўночна-заходняй частцы Дубліна недалёка ад заапарка.

Гэта тое месца, міма якога сапраўды прайсці нельга. Тут можна адчуць сапраўдны кантакт з прыродай.

Шпацыруючы днём па лужку, можна папросту сустрэць статак аленяў. Мясцовы клімат, які па адчуваннях нагадвае вечную вясну, падтрымлівае прыроду свежай, а расліннасць зялёнай.

**MONSANTO У ЛІСАБОНЕ**

Монсанто - лясны раён у касмапалітычнай сталіцы Партугаліі Лісабоне. Жыхары горада могуць ганарыцца тым, што гэта самая вялікая зялёная зона ў паўднёвай Еўропе.

Увесь парк досыць пагорысты, так што адтуль адкрываецца зачаравальны краявід на заліў і мост імя «25 Красавіка», які па прыгажосці не саступае «Залатым варотам» Сан-Францыска.

Гэты лес – выдатнае месца для шпацыраў і адзіноты. Тут рэдка можна заспець скупнасці народа, нягледзячы на тое, што турысты любяць гэта месца. Проста таму, што гэта больш чым парк ці лес.



Дублінскі парк «Фенікс»

**dzedzich.org**

# ПРАФЕСАР - НЕ ЛАПУХ

**Адзін са студэнтаў універсітэту імя М. Рёмерыса ў Вільні надоўга запомніць 15 траўня. У гэты дзень яго злавілі і выгналі з іспыту за спробу выкарыстання слухавак і мікрафону на заключным экзамэне.**

Нядбайнаму студэнту, які амаль цалкам паўтарыў эпізод знакамітай камэдыі Леаніда Гайдая «Аперацыя „Ы“ і іншыя прыгоды Шурыка», пагражае выключэнне з універсітэту.

Студэнта, які паводзіў сябе падазрона і спрабаваў спісваць, заўважыў выкладчык з экзаменацыйнай камісіі.

«Ён заўважыў студэнта, які выкарыстаў абсталяванне, падобнае да сістэмы Hands free. Гэта прылада чорнага колеру, падобная да асадкі. Студэнт паспрабаваў схаваць яе, засунуўшы ў чаравік, на што звярнулі ўвагу іншыя студэнткі», — апісаў сітуацыю прадстаўнік літоўскага ўніверсітэту Кястуціс Сальджюнас.

Пасля таго, як студэнт быў злоўлены «з доказамі злачынства», яго знялі з іспыту па адміністратыўным праве.

Па дадзеных DELFI, студэнта выдала тое, што ён казаў надта гучна, а таксама завялікае хваляванне. Калі выкладчык спытаў, з кім той размаўляе, студэнт адказаў, што ні з кім. Тады выкладчык спытаў, ці няма ў ягоным вуху адмысловай прылады, на што студэнт ізноў адказаў адмоўна. Аднак на дапамогу выкладчыку прыйшлі студэнткі, што сядзелі побач. Яны і паказалі, у якім вуху студэнта была схаваная слухаўка.

Дэкан факультэту правядзе пачатковае расследаванне. Пасля гэтага будзе створаная камісія, якая за грубае парушэнне акадэмічнай этыкі звычайна прапануе выключыць студэнта з універсітэту бяз права аднаўлення на працягу аднаго году. Канчатковае рашэнне аб пакаранні студэнта прыме рэктар.

**generation.by**



# У ЧАКАННІ ПОЛЬСКАГА ШЭНГЕНА

**Чаму ў польскага консульства такія чэргі? Такім пытаннем задаюцца тысячы беларусаў, якія маюць намер з'ездзіць у суседнюю краіну. У пасольстве Польшчы намякаюць на палітычныя падводныя камяні. МЗС Беларусі ж раіць палякам рацыянальней арганізоўваць працу і не бачыць неабходнасці павялічваць штат консульстваў для рашэння праблемы. А паміж гэтымі агнямі беларусы, якія рвуцца атрымаць польскі шенген.**




**БЕЛАРУСЫ - ЗАКЛАДНІКІ НЕВЫЯЗНЫХ СЛУЖБОЎЦАЎ?**

На 44% у 2011 году ў параўнанні з 2010-м стала больш беларусаў, ахвотных атрымаць польскую візу. Многія гэта звязваюць са з'яўленнем шматразовых шэнгенскіх віз "за пакупкамі", якія польскія консульствы выдаюць практычна любому ахвотніку - пры наяўнасці запрашэння ці проста заявы пра намер здзяйсняць пакупкі. У выніку - чэргі пад пасольствам, якія навяваюць успаміны пра дэфіцытныя гады "саўка".

Да таго ж з 15 верасня 2011 ва ўсіх консульскіх аддзелах Польшчы ў Беларусі заява на атрыманне як шэнгенскай, так і нацыянальнай візы ў абавязковым парадку павінна мець электронную рэгістрацыю, падчас якой заяўніку вызначаюць дату, калі ён зможа падаць заяву на візу ў консульства. Але атрымаць рэгістрацыю для падачы заявы на польскі шэнген вельмі складана - шматлікія беларусы змушаны тыднямі тырчаць за кампутарам у чаканні "раздачы" дат.

А ў пасольстве Польшчы ўжо стаміліся паўтараць, што супрацоўнікі консульства зусім не зацікаўлены ў тым, каб ствараць для беларусаў штучныя праблемы з візамі.

*- У нас ёсць штат супрацоўнікаў, які раней выдаваў 150 тысяч віз, а зараз выдае 300 тысяч віз. Мы прапанавалі бязвізавы рух у прымежнай зоне*, - распавёў Naviny.by саветнік пасольства Польшчы Павал Марчук. - *Трэба нарэшце задзейнічаць малы прымежны рух. Бо менавіта людзі, якія едуць за пакупкамі ці да родных з Гародні і Берасця, ствараюць гэтыя чэргі.*

Нагадаем, што польскі сойм ратыфікаваў дамову пра малы прымежны рух два гады назад. Аднак беларускі бок дагэтуль канчаткова не зацвердзіў дамову.

*- Што яшчэ мы можам зрабіць?* - пытае саветнік. - *Нам трэба павялічыць штат працаўнікоў, можна адкрыць дадаткова аднодва консульствы. Мы працуем у надзвычайных умовах. Летась трыма консульствамі ў Гародні, Брэсце і Менску было выдадзена больш 300 тысяч віз. 3,16% беларусаў атрымала польскія візы! Якая з краін ЕС выдае такую колькасць віз?*

- Мы два гады працуем адным і тым жа складам, а віз летась мы выдалі амаль у два разы больш,- распавёў у інтэрв'ю "Еўрарадыё" амбасадар Польшчы ў Беларусі Лешак Шарэпка. - У 2010 годзе выдалі 200 тысяч віз, а ў 2011 - 300 тысяч. І сёлета будзе яшчэ больш, а колькасць консулаў не змянілася.

У Міністэрстве замежных спраў Беларусі пацвердзілі, што польскі бок звяртаўся з просьбай пра павелічэнне штата консульскіх супрацоўнікаў.

*- Польскі бок звяртаўся да нас з такой просьбай. Аднак мы не лічым гэта адзіным рашэннем. Польскі бок мае 26 консульскіх супрацоўнікаў на тэрыторыі Беларусі. Беларусь мае ў Польшчы 12 консулаў*, - паведаміў Naviny.by прэс-сакратар МЗС Андрэй Савіных. - *Візавая нагрузка на аднаго супрацоўніка цалкам супастаўная. Аднак чэрг у беларускім прадстаўніцтве няма, і тэрміны атрымання віз несупастаўна карацей. Мы перакананыя, што праблема можа быць вырашана за кошт больш рацыянальнай арганізацыі працы, у тым ліку, шляхам вызвалення супрацоўнікаў ад абавязкаў, якія не адносяцца да традыцыйнай консульскай працы. Мы таксама не абмяжоўваем колькасць тэхнічных супрацоўнікаў, якія прымаюцца на месцы, для абслугоўвання гэтага працэсу.*




Павал Марчук прызнаўся, што ўжо стаміўся адказваць на пытанне, чаму ў польскага консульства такія чэргі? *"Таму што камусьці, напэўна, зручна папракаць польскіх дыпламатаў у тым, што яны не робяць нічога, каб гэтыя чэргі былі менш"*, - кажа ён.

Пры разглядзе дадзенай праблемы дараднік рэкамендуе ўлічваць міжнароднае становішча. А таксама нагадвае, што з 11 чэрвеня пасольства Польшчы ў Менску прымусова пераязджае з будынка на вуліцы Румянцава ў будынак консульства на вуліцы Крапоткіна.

*- Цяпер не самы добры момант абмяркоўваць з Еўрасаюзам палягчэнне візавага рэжыму, калі больш двухсот беларускіх службоўцаў не могуць нават выехаць на Захад*, - працытаваў Павел Марчук нядаўнюю заяву амбасадара Беларусі ў Нямеччыне Андрэя Гіро. І дадаў: *"На думку беларускіх палітыкаў, калі 200 чалавек не можа, увесь народ будзе закладнікам"*.

*- А ўсё астатняе - ужо другаснае пытанне*, - дадае ён. - *Таму што тут мы можам распавядаць бясконца, якія ў нас праблемы і як мы жадаем іх вырашаць. Але без падтрымкі беларускай дзяржавы нам будзе цяжка гэта зрабіць.*

**"ЭЛЕКТРОННЫ ПАЛОН"**

Ёсць прэтэнзіі ў шараговых беларусаў не толькі да прапускной здольнасці консульстваў, але і да сістэмы электроннай рэгістрацыі - ад таго, што даты "выкідваюць" пару разоў у месяц, і яшчэ трэба прымудрыцца іх "злапаць", да таго, што сістэма не вытрымлівае наплыву ахвотнікаў і проста не дае зарэгістравацца, выдаючы памылку за памылкай.

Шматлікія незадаволеныя раяць наогул адмяніць электронную рэгістрацыю і вярнуцца да практыкі жывой чаргі. Але, упэўнены Павел Марчук, гэта толькі зменшыць колькасць выдаваных віз.

*- Гэта нядобрая ідэя. Дзякуючы электроннай сістэме рэгістрацыі мы змаглі павялічыць у два разы колькасць выдаваных віз. Так, яе трэба ўдасканальваць. І над гэтым нашы адмыслоўцы працуюць. Але без гэтай сістэмы ніяк*, - сказаў саветнік пасольства Польшчы. У польскім дыппрадстаўніцтве адзначаюць, што не "баяцца" беларускіх грамадзян.

*- Але паколькі мы знаходзімся ў ЕС, у зоне Шэнген, мы павінны працаваць дакладна па заканадаўстве групы Шэнген*, - тлумачыць Павел Марчук. - *Польшча імкнецца пераканаць усе астатнія краіны ЕС, ды і беларускія ўлады, што для беларусаў трэба адмяняць як мага хутчэй візавы рэжым. Але гэта яшчэ, напэўна, запатрабуе часу…*

**naviny.by**

# ВУЧОБА ЗА МЯЖОЙ:
## ІНСТРУКЦЫЯ АД ВІДАВОЧЦЫ

**Чытачка сайта adukacyja.info расказвае, як трапіць на праграму, чаго гэта каштуе, як здаваць іспыты і, увогуле, як гэта – быць студэнтам за мяжою?**



Калісьці даўно я чула гісторыі пра тое, што нехта вучыцца за мяжой, ды яшчэ і стыпендыю атрымлівае. Ставілася, аднак, да іх як да гарадскіх легенд – на самой справе не існуе гэтых людзей. Занадта павінна пашанцаваць у жыцці, каб і вучыцца ўзялі, і грошы на гэтую справу давалі. Тым не менш, зараз я сама – адна з герояў гэтых гісторый.

Я вучуся ў Боне, у Акадэміі Дойчэ Вэле (Deutsche Welle Akademie). Сюды штогод сюды запрашаюць маладых журналістаў з усяго свету. У выніку толькі ў маёй групе – моладзь з 16 краін: Беларусі, Інданэзіі, Новай Зеландыі, Пакістана, ЗША, Бразіліі і іншых.

**ГАЛОЎНАЕ – ЖАДАННЕ**

Калі вы зазірнеце на старонку любога еўрапейскага ўніверсітэта, дык спіс патрабаванняў да абітурыента можа адбіць ўсялякае жаданне нават спрабаваць атрымаць там месца. Але, сапраўды, трэба толькі пачаць – шматлікія дакументы ўсё ж такі магчыма падрыхтаваць і сабраць.

Іншая справа – моўныя тэсты. На маю праграму патрабавалі два – англійскі IELTS і нямецкі TestDAF. Па-першае, каштуюць яны не мала: каля 100-130 еўра за экзамен. Па-другое, нават калі вы ведаеце мову, рыхтавацца давядзецца ўсё роўна, бо тэсты – рэч спецыфічная. Калі не ўлічваць, што акрамя, напрыклад, багатай лексікі, у IELTS важна яшчэ і добра структураваць тэкст, то адзнаку можна атрымаць нашмат ніжэйшую за сапраўдныя веды.

Яшчэ адзін важны момант – матывацыйны ліст, які трэба даслаць у ВНУ разам з астатнімі дакументамі. Справа такая: кожнаму ўніверсітэту хочацца верыць, што ён такі ўнікальны, і вучыцца вы хочаце толькі там, а ў іншае месца не пойдзеце, нават калі папросяць. Таму я ўважліва праглядзела праграму майго курса, падумала, чым менавіта яна мяне прываблівае.

З другога боку, трэба ўлічваць і магчымыя патрабаванні да кандыдатаў: каго і чаму хочуць бачыць студэнтам? І я пачала пісаць ліст, дзе падрабязна тлумачыла, што, напрыклад, прадмет "Медыя, грамадства і палітыка" для мяне цікавы, бо я хачу працаваць у палітычнай журналістыцы. Што я ўжо маю досвед, але хачу глядзець на гэтую сферу з больш шырокай перспектывы.

Яшчэ адна парада: не лянуйцеся дасылаць у ВНУ электронныя лісты! Гэта відавочна сведчыць, што вы зацікаўлены ў паступленні, а не проста рассылаеце свае дакументы па ўсім свеце, каб атрымаць халяўную візу. Шчыра кажучы, для мяне гэта было не так і проста, бо на сайце праграмы былі зразумела апісаныя ўсе патрабаванні, апісанне курса і гэтак далей. Таму я прысвяціла нямала часу таму, каб выдумаць новае пытанне: трэба было і паказаць зацікаўленасць, і не выглядаць дурной.

**СТУДЭНТ!**

Пачынаць вучобу ў іншай краіне было цікава і страшна адначасова. Мяне ўпершыню пасялілі ў інтэрнат. Так што больш ніхто не скажа: "Не жыла ў інтэрнаце – не ведаеш студэнцкага жыцця!" Жыла і ведаю. Але, вядома, па нашых стандартах жыву я амаль у гатэлі: асобны пакой з маленечкай кухняй і ваннай – проста цуд!

Асобная гісторыя – навучанне на замежнай мове. Спачатку было вельмі цяжка ўвесь час успрымаць інфармацыю па-нямецку, ды і нават па-англійску. Гэта патрабавала абсалютнай увагі, і ўжо пасля дзвюх лекцый я адчувала сябе нібыта пасля змены на заводзе.

Аднагрупнікі адразу падаліся вельмі цікавымі і мілымі людзьмі. Але розніца ў культурах усё ж такі пачала вылазіць з цягам часу.

Справа ў тым, што немцы дазваляюць падчас пісьмовага іспыту выходзіць у туалет. Зразумела, што нехта вырашыў выкарыстаць такі шанец і схаваў у туалеце падручнік, дакладней, два – адпаведна для дзяўчынак і хлопчыкаў. Падручнікі знайшлі, і ўсім, хто выходзіў, пагражала пераздача. Зразумела, такая перспектыва не радавала. Таму, калі сталі разбірацца, то студэнтка з Нямеччыны, пазнаўшы почырк сваёй суайчынніцы, адразу ж "здала" яе прафесару. Другі чалавек прызнаўся сам і нават публічна папрасіў прабачэння ў усёй групы.

Для нашага, як мы тут кажам, "савецкага" блоку – то бок дзяўчынак з Беларусі і Расіі – гэта не падзея: ну падручнік у туалеце, ну хацеў нехта спісаць, і што? На нашу думку, куды горш было "здаць" сяброўку. Таксама адрэагавалі і нашыя аднагрупнікі-азіяты. А вось прадстаўнікі Заходняй Еўропы і ЗША паставіліся да сітуацыі інакш: распачаўся неверагодны скандал, некаторыя студэнты перасталі нават размаўляць з вінаватымі, нягледзячы нават на прынесеныя прабачэнні.

**ІСПЫТЫ**

Мае сябры заўсёды здзіўляюцца, калі я кажу нешта пра іспыты. "А што, вас там яшчэ і вучыцца прымушаюць?" І сапраўды, калі ўяўляеш студэнцкае жыццё за мяжой, то шматлікія іспыты, лекцыі, праекты і пісьмовыя работы на думку не прыходзяць, хоць, як аказалася, менавіта яны і запаўняюць увесь час.

На вусныя іспыты кожнага студэнта запрашаюць у асобны час, таму ніхто не сядзіць пад дзвярыма і не спрачаецца за магчымасць пайсці ў першай, апошняй ці ў якой там яшчэ пяцёрцы. Іспыт прымаюць два выкладчыкі, якія таксама вядуць пратакол адказу. Пачынаецца гаворка хвілін на дваццаць – без усялякіх білетаў і часу на падрыхтоўку. Закранаецца шмат тэмаў, у тым ліку просяць паразважаць пра нешта на падставе матэрыялу, што вывучалі падчас семестру.

Пісьмовы іспыт складаецца звычайна з трох-чатырох прадметаў, таму рыхтавацца трэба адразу да ўсяго. Цікава, што ніякага спісу пытанняў, зноў жа, не існуе. Вось што праходзілі – тое і вучыце. Але у той самы час, на мой погляд, аб'ём, які трэба падрыхтаваць, значна менш, чым быў у маім родным БДУ. Там на іспыт па літаратуры трэба было прачытаць некалькі дзясяткаў твораў мастацкай літаратуры старонак па дзвесце кожны.

**ВОЛЬНЫ ЧАС**

Вось гэта ўжо сапраўднае студэнцкае жыццё! Інтэрнат, вольны час, вечарынкі! Дзіўна, але ў інтэрнат можна запрашаць сяброў, пакідаць іх у сабе хоць бы і на тыдзень і вяртацца ноччу. Нікога няма на першым паверсе – адчыняй ключом дзверы і ідзі. Да таго ж, у самім інтэрнаце кожны тыдзень абсалютна афіцыйна праводзяцца вечарынкі з гучнай музыкай і таннай выпіўкай.

Даволі часта мы праводзім вечарынкі самі з аднагрупнікамі. Хтосьці запрашае да сабе, і тады кожны прыносіць нейкую нацыянальную страву – у выніку можна пачаставацца і бразільскімі прысмакамі, і кітайскім супам. Здагадайцеся, што ж могуць прынесці беларусы? Зразумела, "Кока-колу"! Гатаваць я не ўмею, а "Кока-кола" ўжо заслужыла права звацца нашым нацыянальным напоем. Ну добра-добра, гатавалі мы таксама і дранікі. Але заняло гэта гадзіны тры, бо ў гаспадароў не было прыстойнай таркі.

Вядома, вучоба за мяжой – гэта цудоўны досвед, які дазваляе пазбавіцца многіх стэрэатыпаў і значна пашырыць свае погляды.

adukacyja.info

EUROКЛУБ ДАДАТАК ДА ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНАГА БЮЛЕТЭНЯ "ДЗЕДЗІЧ"

• **Заснавальнік:** ініцыятыўная група моладзі
• **Распаўсюджваецца бясплатна**
• **Падпісана ў друк** 27.05.2012 года у 18-00
• **Папера** афсетная, фармат А4, 0,5 ул.-друк. аркуша,
• **Гарнітура** Helios
• Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі

**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый ШЫМАНСКІ.
**Рэдакцыйная калегія:** Ю. Агіевіч, П. Белавус, П. Дайлід, Д. Турчаняк,
**Адказны за выпуск:** Стэфанія Малюта.
• **Кантактныя тэлефоны: (029) 660-57-41, (029) 724-21-16.**
• **E-mail:** dzedzich@dzedzich.org. **Інтэрнэт:** www.dzedzich.org
• Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
• Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
• **Наклад** 299 асобнікаў